Гродна
№22 (480),
26 лістапада 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Адвэнт вучыць не паддавацца настроям, нецярплівасці



Хутка ў Касцёле распачнецца перыяд чакання, які папярэднічае святам Божага Нараджэння – Адвэнт. У бягучым годзе першую свечку ў вянку з яловых галінак вернікі запаляць 3 снежня. Як дадзены час павінен паўплываць на духоўнае жыццё чалавека? Чаму ігнараваць яго небяспечна? І наколькі ў Адвэнце могуць спалучацца радасць і пакаянне? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. Руслан Мазан.

● працяг на с. 4




## На абед да сясцёр назарэтанак

Манаскае штодзённае жыццё выглядае цалкам іначай, чым свецкае. Яно абумоўлена шматлікімі правіламі і законамі. Разам з тым, кансэкраваныя асобы застаюцца такімі ж, як і мы, у простых побытавых сітуацыях. Магчыма, толькі па-іншаму да ўсяго адносяцца – нам у прыклад…

Карэспандэнт "Слова Жыцця" пабывала ў гродзенскім доме Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта і разам з манахіняй, якая служыць на кухні, далучылася да прыгатавання абедзенных страў для сясцёр супольнасці.

● працяг на с. 5

"Хай Пан дапаможа нам падрыхтавацца да Божага Нараджэння з вялікай верай". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### НЯДЗЕЛЯ ХРЫСТА ВАЛАДАРА

**Мц 25, 31–46**

Езус сказаў сваім вучням: "Калі прыйдзе Сын Чалавечы ў славе сваёй і ўсе анёлы з Ім, тады сядзе на троне славы сваёй. І сабраныя будуць перад Ім усе народы, і Ён аддзеліць адных ад другіх, як пастух аддзяляе авечак ад казлоў. І паставіць авечак праваруч, а казлоў – леваруч. Тады скажа Валадар тым, хто праваруч Яго: «Прыйдзіце, блаславлёныя Айца Майго, прыміце ў спадчыну Валадарства, падрыхтаванае вам ад стварэння свету. Бо Я быў галодны, і вы далі Мне есці; прагнуў, і вы напаілі Мяне; быў падарожным, і вы прынялі Мяне; быў голы, і вы апранулі Мяне; быў хворы, і вы адведалі Мяне; быў у вязніцы, і вы прыйшлі да Мяне». Тады адкажуць Яму справядлівыя: «Пане, калі мы бачылі Цябе галодным і накармілі, ці сасмяглым і напаілі? Калі мы бачылі Цябе падарожным і прынялі, ці голым і апранулі? Калі мы бачылі Цябе хворым ці ў вязніцы і прыйшлі да Цябе?». І Валадар скажа ім у адказ: «Сапраўды кажу вам: тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі». Тады скажа і тым, хто леваруч Яго: «Ідзіце ад Мяне, праклятыя, у агонь вечны, падрыхтаваны д'яблу і анёлам ягоным. Бо Я быў галодны, і вы не далі Мне есці; прагнуў, і вы не напаілі Мяне; быў падарожным, і вы не прынялі Мяне; быў голы, і вы не апранулі Мяне; быў хворы і ў вязніцы, і вы не адведалі Мяне». Тады і яны адкажуць Яму: «Пане, калі мы бачылі Цябе галодным ці сасмяглым, ці падарожным, ці голым, ці хворым, ці ў вязніцы, і не ўслужылі Табе?». А Ён скажа ім у адказ: «Сапраўды кажу вам: чаго вы не зрабілі аднаму з гэтых меншых, таго не зрабілі Мне». І гэтыя адыдуць на вечнае пакаранне, а справядлівыя – да вечнага жыцця".

### ЛЮБОЎ – АБАВЯЗКОВАЕ ПРАВІЛА

Дадзены фрагмент Евангелля звяртае нашу асаблівую ўвагу на стаўленне да іншага чалавека і ўчынкі адносна тых, каго сустракаем на жыццёвым шляху. Паколькі менавіта праз гэта праяўляецца вера чалавека ў Пана Бога і любоў да Таго, хто наказвае любіць бліжняга, як самога сябе.

Кожны прэзідэнт ці кароль падчас свайго кіравання краінай вызначае розныя законы, якія з'яўляюцца абавязковымі для грамадзян. Валадарства Хрыста, хоць і непадобнае ні да адну з зямных дзяржаў, таксама мае правіла – любіць Бога і бліжняга. Яно абавязковае для кожнага незалежна ад паходжання, грамадзянства і сацыяльнага статусу. Калі мы прызнаём Хрыста Валадаром свету і ўласнага жыцця, павіны прыкласці ўсе намаганні, каб гэты запавет, заклік даваць сведчанне любові стаў чымсьці адчувальным, рэальным, а не заставаўся толькі правілам, якое прымаем, але не выконваем. Пры тым, ніколі нельга забываць, што пасля смерці павінны будзем зрабіць справаздачу з любові – да галодных, голых, сасмяглых, хворых, зняволеных, падарожнікаў.

### І НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ

**Мк 13, 33–37**

Езус сказаў вучням сваім: "Глядзіце, чувайце, бо не ведаеце, калі настане час той. Падобна гэта да чалавека, які, вырушаючы ў далёкую дарогу, пакінуў дом свой, даў слугам сваім уладу, і кожнаму сваю працу, і загадаў брамніку чуваць. Дык чувайце ж і вы, бо не ведаеце, калі прыйдзе гаспадар дому: увечары, ці апоўначы, ці пры спеве пеўняў, ці раніцай; каб не застаў вас спячымі, калі вернецца неспадзявана. А што вам кажу – кажу ўсім: чувайце!".

### ЧУВАЙЦЕ!

Такі зварот скіроўвае нам Евангелле з першай нядзелі Адвэнту. Ён заклікае кожнага памятаць у штодзённых абавязках і зянятках пра надыходзячую сустрэчу з Хрыстом у канцы свету. Аднак яго мэта не заключаецца ў тым, каб праз запалохванне весці чалавека да навяртання. Ён толькі ўказвае на хуткацечнасць жыцця і заахвочвае да як мага лепшага выкарыстоўвання адведзенага часу, каб сустрэча з Панам не стала чымсьці шакіруючым і неспадзяваным, бо мы не былі падрыхтаваны, а наадварот, хвілінай, якой даўно чакалі з вялікім жаданнем і радасцю. Такім чынам, Адвэнт прыгадвае не толькі праўду аб нараджэнні Збаўцы, але і ісціну аб Яго паўторным прыходзе, які заўсёды актуальны і штодзень становіцца бліжэйшым.

*Кс. Ян Раманоўскі*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Туга па Богу

*У жыцці кожнага чалавека здараюцца сустрэчы, па якіх ён сумуе. Звычайныя штодзённыя сустрэчы, а таксама нядзельныя і святочныя. Уданыя і нязддзейсненыя, калі на стол ставяцца 2 кубкі, але 1 застаецца пустым. Усе яны неабходны, каб дзяліцца радасцю, каб не быць аднаму ў смутку.*

У Адвэнце – перыядзе, які распачынае новы літургічны год у Касцёле, – мы рыхтуемся да сустрэчы з Тым, хто быў прадказаны. І калі Ён прыйдзе, усё дасягне канца свайго падарожжа. Бо менавіта ў Хрысце мы сталі выбраным родам, народам святым, людам, узятым Богам ва ўласнасць (параўн.: 1 П 2, 9).

Пан Езус хоча ўвайсці ў жыццё кожнага чалавека з мэтай усё ў ім аднавіць. Прыбраць з сэрца непатрэбныя страхі і неспакой, каб яно ажывілася надзеяй. Толькі Хрыстос, прыняты як дар ад Айца, можа змяніць людское жыццё, зрабіўшы яго прыгажэйшым, надаўшы сапраўдны сэнс.

Сустрэча з намі – вялікае жаданне Стварца. Але перш чым яна здзейсніцца, мы павінны адпаведна падрыхтавацца да гэтага. У першую чаргу, адкрыць свае душы на Бога. Шчыра і праўдзіва засумаваць па досведзе Любові, якая не патрабуе, не шантажыруе, не загадвае, а даецца без усякіх умоў, перад якой не трэба прытварацца, надзяваць маску, іграць неадпаведныя ці зручныя ролі.

У Адвэнце варта затужыць па Пану, які ёсць і пастаянна прыходзіць, таму што з'яўляецца Богам новага жыцця, а не толькі гісторыі, што ўжо здзейснілася. Толькі моцнае прагненне сустрэчы з Усемагутным, асабістага дыялогу любові з Ім здольна абараніць веруючых людзей ад спакусы шэрасці жыцця, ад здраблення каштоўнасцей і абыякавасці.

**Дарагія Чытачы!**

Чакаючы дня здзяйснення жадаемай паўнаты, паўторнага прыходу Таго, які ў таямніцы свайго паходжання з'яўляецца крыніцай, першапачаткам і мэтай усяго, што існуе (параўн.: Кал 1, 15–20), запытайма саміх сябе пра тугу па Богу: ці задаволены мы, ці шчаслівыя, ці адчуваем жаданне кожны дзень ісці далей наперад?

Няхай задачай кожнага на Адвэнт стане імкненне да сапраўднай сустрэчы з Усявышнім, які на самой справе прамаўляе да нас у сваім Слове і дакранаецца да нас сваімі сакрамантамі. З усіх сіл з'яднаемся са Стварыцелем, трываючы ў малітоўным чуванні. А Бог зробіць астатняе, Ён здзейсніць усё. Трэба верыць у гэта. І, застаючыся ў тым даверы, ужо не турбавацца пра дробныя, лішнія рэчы. Найважнейшае – нястомна прасіць у Пана ласку, каб ніколі ў сэрцы не пагасла туга па Ім.

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# ЗАСТУПНІК ПЧАЛЯРОЎ: СВ. АМБРОЗІЙ



*У іканаграфіі св. Амброзій прадстаўляецца ў папскім уборы. Сярод яго атрыбутаў можна адзначыць пяро, кнігу, вулей з пчоламі (згодна з традыцыяй, пчаліны рой акружыў нованароджанага Амброзія, кладучы ў яго вусны мёд, што павінна было стаць прадвеснікам дбайнай пастырскай працы, у тым ліку абвяшчэння Божага слова), дзіця ў калысцы, косць і бізун з 3-ма раменьчыкамі, якімі святы бічаваў сябе.*

***Вялікі і знакаміты прамоўца. Людзі слухалі яго, затаіўшы дыханне. Да сёння паўтараюцца словы святога: "Добрая мова – як соты з мёдам". Пчаляры ж, асаблівым заступнікам якіх ён з'яўляецца, вераць, што "св. Амброзій мёду дабавіць".***

**КАЛОНА КАСЦЁЛА**

Амброзій нарадзіўся каля 340 года ў Трыры (Германія) у багатай арыстакратычнай сям'і (бацька быў прэфектам Галіі). Атрымаў адукацыю ў Рыме (Італія). Там распачаў упраўленчую і палітычную кар'еру. Праз некаторы час быў пасланы ў Мілан (Італія), каб выконваць функцыю консула. Як малады і шляхетны чалавек прагнуў здабыць славу і прызнанне, аднак Пан Бог падрыхтаваў для яго іншы план.

Хоць Амброзій з'яўляўся катэхуменам, пасля смерці біскупа Мілана быў выбраны яго пераемнікам. Распачаў працу з моцнага акцэнту: раздаў усю маёмасць бедным. Адразу зарэкамендаваў сябе як выдатны арганізатар, паколькі сабраў паслугу вялікай групы катэхетаў.

Быў разважлівым і ўспрымальным на людскія крыўды чалавекам. Вялікую папулярнасць здабыў дзякуючы сваім казанням і катэхезам, якія прамаўляў у міланскіх святынях. Яго слава сягала самых аддаленых куткоў Рымскай Імперыі.

Біскуп Амброзій удзельнічаў у многіх дагматычных дыскусіях, што датычылі таямніцы Хрыста і Святой Тройцы. Меў значны ўплыў на палітычнае жыццё і, у прыватнасці, на імператара Феадосія, якога схіліў да пакаяння пасля здзейсненай ім разні фесаланікійцаў. Менавіта праз простыя, але адначасова прыгожыя і прасякнутыя верай казанні біскупа адкрылася на навяртанне і сэрца будучага доктара Касцёла св. Аўгусціна, які свае перажыванні і думкі апісаў у "Споведзі".

Памёр біскуп Амброзій у Вялікую пятніцу 4 красавіка 397 года. Пакінуў Касцёлу багатую літаратурную спадчыну, у якую ўваходзяць, найперш, казанні, каментары да Евангелля паводле св. Лукі, шматлікія гімны, якія назаўсёды ўвайшлі ў літургію, дагматычныя сачыненні, прамовы і 91 біскупскі ліст, што засноўваліся на Святым Пісанні, традыцыі каталіцкага Касцёла і асабістай малітве ды досведзе св. Амброзія, вядомага сваёй мудрасцю і справядлівымі меркаваннямі. Пры жыцці яго характарызавалі як "калону Касцёла", "жамчужыну, якая бліщчыць на Божым пальцы". Дзякуючы такім вялікім навуковым дасягненням святы залічаны – разам са св. Аўгусцінам, св. Геранімам і св. Рыгорам І Вялікім – да кола 4-ох вялікіх доктараў Касцёла.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. АМБРОЗІЯ?**

Святы вучыць нас вернасці Божаму праву і разумнай мужнасці, якая дазваляе бескампрамісна заклікаць да навяртання. Указвае на Святое Пісанне як крыніцу ўсякай мудрасці.

**ЦІКАВА!**

Усіх паражала актыўнасць біскупа Амброзія. Як падкрэсліў біёграф, пасля смерці святога яго катэхетычныя абавязкі трэба было падзяліць паміж 5-цю святарамі.

Некаторыя прыпісваюць аўтарства гімна "Te Deum Laudamus" ("Цябе, Бога, праслаўляем") св. Амброзію, які, верагодна, напісаў яго ў падзяку за хрост св. Аўгусціна.

**З ВУСНАЎ СВЯТОГА**

"Калі душа робіць нешта справядлівае, праслаўляе вобраз Бога, на падабенства якога створана. А калі Яго праслаўляе, удзельнічае ў веліччы Усемагутнага і праз гэта ўзвышаецца" ("Айцы жывыя", апрац. Марэк Старавейскі).

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Амброзія 7 снежня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Прыняць Хрыста як Валадара і Пана



**26 лістапада каталіцкі Касцёл адзначае апошнюю нядзелю літургічнага года. Яго падсумаваннем становіцца ўрачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, які пануе ў Небе і на зямлі. Св. Амброзій навучаў, што там, дзе ёсць Хрыстос, там ёсць жыццё і Яго Валадарства. Збаўца – Цар людскіх сэрцаў. Моцай сваёй ласкі Ён робіць так, што кляймо нашага эгаізму, ляноты, недахопу розуму ці добрай волі становіцца сцяблом ружы.**

### З ГІСТОРЫІ ЎСТАНАЎЛЕННЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

Свята Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, увёў у літургічны каляндар у 1925 годзе папа Пій XI сваёй энцыклікай “Quas Primas”, прыгадваючы такім чынам аб месцы, якое належыць Пану Езусу ў жыцці чалавека, грамадстваў і краін. “Хрыстос валадарыць у свядомасці людзей – не толькі таму, што мае глыбокі розум і вялізныя веды, колькі таму, што Ён сам з’яўляецца Праўдай, а чалавек павінен зачарпнуць праўды ад Яго і паслухмяна яе прыняць. Гаворыцца, што Ён валадарыць таксама ў волі людзей – не толькі таму, што бездакорная чалавечая воля поўнасцю падпарадкоўваецца найсвяцейшай Божай волі і слухаецца яе, але таму, што Ён нашу вольную волю схіляе і сваім натхненнем яе падпарадкоўвае, каб мы запаліліся да самых высакародных учынкаў. Урэшце, Хрыстос з’яўляецца Валадаром сэрцаў – па прычыне сваёй любові, якая пераўзыходзіць навуку, па прычыне лагоднасці і асалоды, якія прыцягваюць да сябе душы; таму што не было і не будзе нікога, хто быў бы так любімы ўсімі, як Езус Хрыстус”, – занатавана ў энцыкліцы Папы.

Святы Айцец наказаў, каб ва ўсіх касцёлах у апошнюю нядзелю перад Адвэнтам пасля галоўнага набажэнства перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакраментам адгаворваліся літанія да Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і Акт прысвячэння людскога роду Яго Найсвяцейшаму Сэрцу. Устанаўленне ўрачыстасці на гэты дзень звязана з біблійным разуменнем часу, што, разам з тым, перадае сэнс літургічнага года, які мае на мэце прыгадаць вернікам найважнейшыя падзеі ў гісторыі Збаўлення.

### ЕЗУС ВАЛАДАРЫЦЬ З ВЫШЫНІ КРЫЖА

У выяўленчым мастацтве ўжо са старажытнасці Хрыста прадстаўляюць як Усеўладара, што сядзіць на троне, а на Зямлю, як на падножку, апірае ногі або трымае Зямны шар у далоні. Так адлюстроўвалі Езуса даўнія іконы і мазаікі. Так Яго неаднаразова паказвае і Апакаліпсіс: Хрыстос сядзіць на троне, а ўсё стварэнне пакланяецца Яму.

Евангеллі дэманструюць іншае вымярэнне панавання Божага Сына – Ён валадарыць з вышыні крыжа. У ментальнасці тагачасных людзей Езус быў лідарам збунтаваных яўрэяў. Аднак не тое было галоўным для нашага Збаўцы. Збіты, з цярновым вянком на галаве Ён сказаў Понцію Пілату: “Валадарства Маё не адгэтуль” (параўн.: Ян 18, 33–40).

На крыжы Хрыста відненеўся надпіс: “Езус Назаранін, кароль Юдэйскі” (Ян 19, 19). Гэтыя словы чыталі тлумы людзей: члены Высокай Рады, жаўнеры, пасіўныя сведкі і інш. Бачыла іх і Марыя. Аднак тое, што Яго каты планавалі як пакаранне і прыніжэнне, стала знакам моцы і панавання. Змучаны і пакутуючы Месія ў акце абсалютнай Ахвяры паказаў моц хвалы і веліч справы збаўлення чалавека. Праз смерць на крыжы даказаў сваю любоў да ўсіх людзей, адкупіў іх грахі і паяднаў з Айцом.

Назіраем, як нават зло можа паслужыць дабру: “Закон жа ўвайшоў, каб памножыўся грэх. А дзе памножыўся грэх, там яшчэ больш памножылася ласка; каб як грэх запанаваў з прычыны смерці, так і ласка запанавала праз справядлівасць дзеля жыцця вечнага праз Езуса Хрыста, Пана нашага” (Рым 5, 20–21).

### АДЗІНАЯ НАДЗЕЯ

Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, звяртае ўвагу на канчатковую мэту чалавечага жыцця – з’яднацца з Богам і аддацца пад панаванне Любові ў Яго Валадарстве. Там не кіруюць людскімі правамі, бо яно збудавана не на зямных структурах, але на трывалым фундаменце любові і моцы Святога Духа. У ім не навязваецца свая воля і ўлада, не выкарыстоўваюць іншых для ўласнай выгады. Там цярпліва чакаюць кожнага, хто па ўласным жаданні ў пакоры наблізіцца да Бога, каб зачарпнуць з крыніцы Збаўлення.

Наша штодзённае жыццё павінна быць нястомным падпарадкоўваннем Збаўцы. Толькі Ён можа дапамагчы вызваліцца з-пад улады грахоў, самалюбства, амбіцый і жаданняў. З вышыні крыжа Хрыстос прагне супакоіць наш боль, вылечыць параненыя сэрцы, суцешыць і прытуліць іх да сваіх збаўчых ран.



Кс. Павел Эйсмант

*Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, прыпадае дакладна на XXXIV Звычайную Нядзелю, якая адначасова з’яўляецца апошняй нядзеляй літургічнага года. Вернікі прыходзяць у святыню, каб паўдзельнічаць у св. Імшы, выслухаць Божае слова і прыняць Хрыста ў Камуніі пад выглядам Хлеба. Гэтая рэчаіснасць набывае асаблівы ўзвышаны характар, таму што ўзгадваем Сына Божага, які для нашага збаўлення нарадзіўся ў чалавечым целе, памёр і ўваскрос, Валадара людскіх розумаў, волі і сэрца.*

*Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, адносна “маладая”. Тым не менш, яе змест паходзіць з Біблііі, а дакладней – з Евангелля, дзе сам Хрыстос гаворыць пра сябе, што Ён, Сын Чалавечы, прыйдзе “ў славе сваёй і ўсе анёлы з Ім, тады сядзе на троне славы сваёй. І сабраныя будуць перад Ім усе народы, і Ён аддзеліць адных ад другіх, як пастух аддзяляе авечак ад казлоў” (Мц 25, 31–32).*

*Гэтая ўрачыстасць нагадвае тым, хто верыць у Хрыста, што Ён – Пан і Валадар усяго свету, Бог-Чалавек, Стварыцель і Адкупіцель чалавецтва. І хоць Езус мог прэтэндаваць на тытул зямнога караля Ізраіля, бо паходзіў з дому і роду Давіда, юдэйскага цара, Яго Валадарства не з гэтага свету. Яно пераўзыходзіць зямныя каралеўствы, аднак распачынаецца на зямлі – у сэрцах вернікаў, у хрысціянскіх супольнасцях, сярод тых, хто жыве паводле Божых запаведзей і евангельскай навукі Хрыста. Заданнем кожнага, хто лічыць сябе вучнем Пана, з’яўляецца пашырэнне Божага Валадарства на зямлі праз асабістае сведчанне хрысціянскага жыцця, здзяйсненне добрых учынкаў.*



Кс. Ян Раманоўскі

*Ужо на працягу многіх гадоў Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, у супольнасці Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі з’яўляецца асаблівым часам. Гэты дзень у нашай дыяцэзіі называецца “семінарыйнай нядзеляй”. Выхаваўцы і алюмны выязджаюць у розныя парафіі дыяцэзіі, каб даваць сведчанне сваёй веры і свайго паклікання. Такім чынам мы можам, у пэўным сэнсе, “зрабіць рэкламу” духоўнай семінарыі, наблізіць яе жыццё і паказаць, што надалей, не зважаючы на крызіс каштоўнасцей у сучасным свеце, на крызіс пакліканняў, ёсць маладыя людзі, гатовыя пазітыўна адказаць на запрашэнне Хрыста і пайсці за Ім.*

*Гэтая ўрачыстасць, звязаныя з ёй выезды і спатканні дазваляюць семінарыстам сустрэцца з моладдзю, міністрантамі, каб прадэманстраваць, як можна ў радасці і разам з Хрыстом перажываць найпрыгажэйшы этап свайго жыцця – маладосць. Паказаць, што алюмны – гэта не сумныя людзі, а асобы, напоўненыя жыццёвай энергіяй, крыніцай якой з’яўляецца сам Езус.*

*Ад імя супольнасці Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне хочацца асаблівым чынам падзякаваць у гэты дзень усім вернікам нашай дыяцэзіі за малітоўную і матэрыяльную падтрымку, якую яны аказваюць навучальнай установе. Гэта Ваш асабісты ўклад у будучыню Касцёла ў нашай краіне і ў развіццё паклікання заўтрашніх святароў, якія будуць служыць побач з Вамі. Няхай Хрыстос, Валадар Сусвету, адорыць усіх сваім благаслаўленнем, дарамі і ласкамі, патрэбнымі ў штодзённым жыцці. Семінарыйная супольнасць памятае пра кожнага з Вас у сваіх малітвах.*

*Кінга Красіцкая*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Ці можна “нарадзіцца нанова”? Ці магчыма зноў адчуваць смак, радасць, захапленне жыццём, нават перад абліччам шматлікіх трагедый? Гэта фундаментальнае пытанне для нашай веры і жаданне кожнага сапраўднага верніка: прагненне нарадзіцца зноў, перажыць радасць пачатку з чыстага ліста. Ці маем мы тое жаданне? Ці хочам пастаянна нараджацца нанова для сустрэчы з Панам? Ці маеце Вы гэта жаданне? Насамрэч, яго можна з лёгкасцю згубіць па прычыне празмернай актыўнасці, вялікай колькасці праектаў, якія трэба ажыццявіць. У выніку застаецца мала часу і мы губляем з вачэй тое, што аказваецца фундаментальным: наша ўнутранае, духоўнае жыццё, жыццё, якое з’яўляецца сустрэчай з Панам у малітве.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 15.11.2017*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Сярод мноства тытулаў, якія хрысціянскі люд ужо на працягу 2-ух тысячагоддзяў надае Найсвяцейшай Панне Марыі, ёсць адзін, што асабліва нам блізкі – Маці Міласэрнасці. Калі чуем ці прамаўляем яго, нашы думкі адразу імкнуцца ў Вільнюс, дзе з вышыні сваёй невялікай, сціплай капліцы, аркай перакінутай праз вузкую вулічку, лагодна зззяе гораду над Віліяй і ўсяму свету салодкі, але адначасова смутны і задуменны позірк Марыі. У ім на працягу больш чым 3-ох стагоддзяў вернікі знаходзяць заспакаенне болю, суцяшэнне ў смутку, сілу і цярплівасць у цярпеннях.*

*Калі называем Марыю Маці Міласэрнасці, прагнем падкрэсліць, што ў гэтым дзівосным аб’яўленні Божай міласэрнасці Яна мае сваю выключную, асаблівую ролю. Ніхто іншы, так, як Марыя, не пазнаў глыбіню таямніцы Стварца, які стаў Чалавекам. Марыя была сфарміравана Божай міласэрнасцю ў самым дасłоўным сэнсе, паколькі Усявышні ў сваім Провідзе з самага пачатку выбраў Яе – прыгожую, беззаганную – Мамай для свайго Сына. Яна сапраўды з’яўляецца Божым шэдэўрам, таму што ласка, якой Марыя была адорана ва ўсёй паўнаце, захавала Яе нават ад найменшай плямы граху. Гэтая выключная прывілея Марыі робіць Яе здольнай да вялікай самаадданасці і абсалютнай вернасці Пану Богу.*

*Няхай Маці Міласэрнасці выпрошвае для ўсіх нас глыбокую веру, святло Святога Духа, вернасць спадчыне мінулага і мужнасць, каб зазірнуць у будучыню.*

*Фрагменты гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці МБ Вастрабрамскай у гродзенскай катэдры, 16.11.2017*




◆ *У Мадрыдзе (Іспанія) беатыфікаваны 60 мучанікаў, якія аддалі сваё жыццё за Хрыста падчас ганенняў на Касцёл у 1930-х гг. Сярод іх 29 святароў, 16 манахаў, 2 манахіні і 13 свецкіх вернікаў. Усе яны належалі да духоўнай сям'і, што чэрпае натхненне з харызмы св. Вінцэнта дэ Поля. Урачыстасці ад імя Святога Айца ўзначаліў кардынал Анджэла Амата. Беатыфікацыя стала 4-ым у бягучым годзе масавым абвяшчэннем благаслаўлёных мучанікаў грамадзянскай вайны ў Іспаніі, а іх колькасць дасягнула 281 чалавек.*

◆ *Падчас 2-га штогадовага пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Пакістане (PCBC) было ўзнята пытанне адносна грамадзян краіны і Касцёла. Закрануты тэмы набліжаючыхся выбараў, карупцыі, адукацыі і інш. У выніку пасяджэння PCBC абвясціла Год Эўхарыстыі ў Пакістане. Ён распачынаецца 26 лістапада 2017 г., а скончыцца 25 лістапада 2018 г., у свята Хрыста Валадара. Год Эўхарыстыі павінен стаць часам духоўнага развіцця, унутранага аднаўлення і дзялення любоўю Хрыста.*

◆ *"Малюся за цябе, за тваіх загінуўшых і параненых таварышаў. Малюся за Калумбію", – напісаў папа Францішак у лісце да салдата Эдвіна Рэстрэпа. Мужчына стаў ахвярай проціпяхотнай міны падчас грамадзянскай вайны ў краіне, якая доўжылася 50 гадоў паміж урадавымі войскамі і рэвалюцыйнымі ўзброенымі сіламі Калумбіі (FARC). З-за ранення Эдвін страціў зрок і канечнасці. Прымаючы ліст Пантыфіка, мужчына сказаў, што Бог даў яму магчымасць "бачыць вачыма душы і працаваць у справе міру, што вельмі нялёгка".*

◆ *У Інстытуце рэлігійных навук св. Тамаша Аквінскага ў Кіеве (Украіна) адбылася прэзентацыя кнігі "Свет Бібліі: падарожжа разам з Езуса Хрыста" а. Уладзіміра Кусьнежа. Падчас сустрэчы аўтар адзначыў: "Няведанне асяроддзя, дзе жылі аўтары біблейскіх кніг, няведанне духоўнай ментальнай прасторы, у якой яны раслі і тварылі, з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай для слушнага разумення таго, што тыя напісалі". Праца ліцэнцыята тэалогіі выйшла ў выдавецтве "Кайрос".*

◆ *Познанская архідыяцэзія першай у Польшчы запусціла мабільны дадатак для вернікаў. Дзякуючы гэтаму цяпер лёгка можна знайсці бліжэйшую св. Імшу, споведзь, праглядзець асноўную інфармацыю аб цікавячай парафіі. На дадзены момант працягваюцца працы над чарговымі функцыямі дадатку "Drogowskaz" ("Паказальнік дарог"). У бліжэйшы час будзе запушчаны раздзел, прысвечаны дзейнасці "Карытас", а затым з'явіцца месца для душпастырстваў, якія дзейнічаюць у архідыяцэзіі, і – па аналогіі са св. Імшамі – для астатніх набажэнстваў. Дадатак можна спампаваць бясплатна на тэлефоны з сістэмай Android і iOS. Ім карыстаюцца ўжо больш за тысячу асоб.*

*credo.pro; deon.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Адвэнт вучыць не паддавацца настроям, нецярплівасці



● працяг са с. 1

***– Калі ў хрысціянскай традыцыі з'явіўся Адвэнт?***

– Першыя сведчанні аб адмысловым часе напярэдадні ўспаміну нараджэння Збаўцы адносяцца да 380 года, калі Сарагоскі сабор рэкамендаваў вернікам штодзённа, не прапускаючы ніводнага дня, прысутнічаць у касцёле ў перыяд паміж 17 снежня і 6 студзеня. У V стагоддзі падобны наказ выдаў біскуп Галісіі. Ён раіў пасціць 3 дні штотыднёва на працягу 3-ох тыдняў з дня ўспаміну св. Марціна (11 лістапада) да свят Божага Нараджэння. У Рыме гэты перыяд пачалі адзначаць толькі пад канец VI стагоддзя. Адвэнт там меў форму радаснага чакання прыходу Пана, без посту і іншых пакаянных практык. Пасля таго, як папа Рыгор Вялікі ўніфікаваў літургічныя рэкамендацыі, што датычаць Адвэнту, гэты перыяд у каталіцкім Касцёле распачынаецца з першых Нешпараў у нядзелю, якая прыпадае за 4 тыдні да свят Божага Нараджэння. Трывае да Вігіліі Божага Нараджэння, гэта значыць да 24 снежня. Дзеліцца на 2 перыяды: ад пачатку да 16 снежня – час асаблівага чакання паўторнага прыходу Езуса Хрыста, і ад 17 да 24 снежня – непасрэдная падрыхтоўка да ўрачыстасці Нараджэння Пана.

***– Якую ролю адыгрывае Адвэнт у духоўным жыцці вернікаў? Да якой мэты яны павінны імкнуцца падчас перажывання дадзенага перыяду ў літургічным календары?***

– Слова "адвэнт" паходзіць ад лацінскага слова "adventus", што значыць "прыход, прыбыццё караля". Варта падкрэсліць, што ў гісторыі Адвэнт меў розныя значэнні. У Рымскай Імперыі гэта быў першы афіцыйны візіт імператара пасля атрымання ўлады. У язычніцкіх рэлігіях Адвэнт азначаў вяртанне бажаства ў святыню. З ранняга хрысціянства гэты тэрмін ужываецца ў значэнні падвойнага прыходу Хрыста як Чалавека і Суддзі ў славе ў канцы свету. Вернікі рыхтуюцца не толькі да нараджэння Божага Сына, але і да Яго паўторнага прыходу ў дзень Апошняга Суда. Такім чынам, Адвэнт з'яўляецца часам чакання і надзеі.

***– Якія звычаі склаліся ў вернікаў падчас перажывання Адвэнту?***

– Да нашых, каталіцкіх, адвэнтавых традыцый належыць ватыўная св. Імша аб Найсвяцейшай Панне Марыі, званая Раратамі, якую звычайна цэлебруюць на досвітку. Яе пачаткі сягаюць у XII стагоддзе. З Раратамі звязаны звычай запальвання спецыяльнай свечкі, раратکі, аздобленай зялёнай галінкай. Яна сімвалізуе Марыю, якая, як зара, прадвяшчае прыход абсалютнага Святла, якім з'яўляецца Хрыстос. Свечкі і лампіёны, што ўжываюцца ў адвэнтавай літургіі, выражаюць чуванне і гатоўнасць да прыходу Пана. Да сімвалаў Адвэнту належаць таксама пастаць св. Мікалая і вянок з яловых галінак, які нагадвае аб набліжэнні свят Божага Нараджэння. А 4 размешчаныя на ім свечкі азначаюць 4 тыдні перажываемага перыяду.

***– Адна з іх зазвычай ружовага колеру, у адрозненне ад астатніх...***

– Так, яна абазначае III Нядзелю Адвэнту, якая называецца "Gaudete", што па-лацінску азначае "радуйцеся". У гэты дзень святары на знак радасці апранаюць на літургію ружовы (замест фіялетавага) арнат. У той жа час Папа ў Рыме асвячае фігуркі Дзіцятка Езус, якія дзеці па традыцыі прыносяць на Плошчу св. Пятра.

***– У свядомасці вернікаў закладзена, што Адвэнт – час якраз радаснага чакання. Але разам з тым ён павінен мець пакаянны характар. Як гэтыя грані судакранаюцца?***

– Адвэнт з'яўляецца часам чакання, але не часам пасіўнасці і застою. Касцёл заахвочвае, аднак ніколі не прымушае веруючага чалавека актыўней працаваць над сабой, а дакладней – над сваімі недахопамі і слабасцямі. Чаканне паўторнага прыходу Пана з'яўляецца часам пакаяння і аскетызму, але адначасова павінна быць часам хрысціянскай радасці. Адвэнт – гэта таксама перыяд падрыхтоўкі святочных сюрпрызаў для самых блізкіх, імкнення рэалізаваць як мага больш учынкаў міласэрнасці. У такой атмасферы мы павінны чакаць прыгожай, цудоўнай падзеі Божага Нараджэння, якая здольна напоўніць душу сапраўднай радасцю.

***– Што значыць быць падрыхтаваным да свят Божага Нараджэння?***

– Адвэнт – час рэфлексіі над найважнейшымі праблемамі нашага жыцця. Гэта спрыяе таму, што падчас дадзенага перыяду мы шмат разважаем пра ўласнае жыццё і памылкі, якія здзейсніялі, магчыма, несвядома. Адвэнт з'яўляецца таксама нагодай, каб засяродзіцца над сэнсам існавання, штодзённых заданняў, якія выконваем, і часам, каб дзяліцца досведам сваёй веры. Гэты перыяд дае нам шанс нібы нанова нарадзіцца. Праз удзел у рэкалекцыях і споведзь з нецярплівасцю чакаем радаснай навіны аб нараджэнні Дзіцятка Езус у сваім сэрцы...

***– Чаго пазбаўляецца вернік, ігнаруючы прапанаваную Касцёлам падрыхтоўку да сустрэчы з нованароджаным Збаўцам?***

– Многія наракаюць, што сучасны чалавек забываецца пра Бога, не знаходзіць часу для духоўнага жыцця і такім чынам губляе яго, а пазней шукае спосабы, як з гэтым парадзіць... Але на самой справе не трэба выдумваць нічога новага. Дастаткова прыгадаць, што ў Касцёле існуюць перыяды, якія служаць "стартэрам" нашых душ. І адным з іх з'яўляецца Адвэнт. Ён вучыць не паддавацца настроям, нецярплівасці. Елку сапраўды можна аздобіць толькі раніцай у Вігілію. Падарункі можна захоўваць у таямніцы да самага вечара. Калядкі можна спяваць толькі пасля Пастэркі. Адвэнт выхоўвае ў нас цярплівасць, паколькі гэта менавіта яна прыносіць Божы плён. Лесвічка, па якой нібы спускаецца Пан Езус і якую ставяць у многіх касцёлах у час Адвэнту, вучыць той жа мудрай, святой цярплівасці, што можа выратаваць жыццё. Сталым плёнам гэтага святога часу з'яўляецца ўменне чакання, таму што маленькія крокі больш упэўнена вядуць да мэты. Вялікія крокі часта з'яўляюцца цяжкімі для выканання і хутка стамляюць, малыя ж – магчымы для кожнага і не выклікаюць задышкі. Адвэнт дапамагае нам гэтыя крокі скіроўваць на шлях да Збаўцы.

*Ангеліна Пакачайла*

# Таямнічы час

**Што для Цябе, для мяне азначае Адвэнт? Ці гэта час, калі проста прыходзім у касцёл, удзельнічаем у літургіі, слухаем святара, і на гэтым усё заканчваецца, ці нешта ўсё ж такі іншае?**



Для кожнага чалавека Адвэнт значыць штосьці сваё. Некаторыя ўспрымаюць гэты перыяд як нешта фармальнае, што адбываецца ў жыцці многіх, але мае нейкі другасны, не самы важны сэнс. Як правіла, такія людзі падчас Адвэнту старанна рыхтуюцца да надыходзячага свята: параўноўваюць кошты і якасць прадуктаў у супермаркетах, каб можна было багата накрыць на стол, прыгатаваць розныя арыгінальныя стравы; паралельна з гэтым набываюць падарункі родным і сябрам; вычышчаюць кожны куток у доме, каб госці бачылі, як усё прыгожа і ладна; купляюць вялікія елкі, навешваюць на іх шмат цацак і агеньчыкаў, каб здалёк было відаць, што ў гэтым доме пануе атмасфера зімовых свят. Але калі спытаць такіх людзей, як яны разумеюць непасрэдна сам Адвэнт, на жаль, пераважная большасць не зможа даць аніякага адказу.

Ці задумваемся мы хоць на хвілінку, што на самой справе азначае гэты перыяд? Не ва ўсім свеце, не для нашых сяброў ці калег, а менавіта для нас? Для кожнага з нас? Ці задумваемся аб тым, што гэта той самы час, калі патрэбна рыхтаваць не толькі свае дамы, але і свае душы на прыйсце Збаўцы? Пры гэтым варта ўсведамляць, што галоўным домам, у які вось-вось завітае Хрыстос, з'яўляецца наша душа. Ці можна яе чысціню параўнаць з беллю абруса на святочным стале? Ці адкрытасць на прыняцце падзей Божага Нараджэння падобна да адчыненых дзвярэй? Часам людзі настолькі ўцягваюцца ў працэс прыгатавання святочных страў, што ім папросту не стае часу, нават каб наведаць касцёл. Але трэба разумець, што галоўны пачастунак у гэты дзень – запрасіць у сваю душу народжанага Езуса.

Прысмакі на стале бываюць нярэдка. Падарункі дорым з розных нагод. Але падчас Божага Нараджэння сям'я збіраецца, каб адзначыць разам адно з галоўных свят на працягу літургічнага года. Свята, поўнае шчырых усмешак, супакою і цяпла. Бо што значыць любое хрысціянскае свята, калі яно выключна фармальнае, калі ў асяроддзі не пануе атмасфера дабрыні і прабачэння, калі не можам у поўнай меры прыняць, наколькі вялікая падзея набліжаецца?

Мы часта турбуемся аб матэрыяльным, а павінны – аб духоўным. Не аб надзённым, але аб вечным. Давайце паклапоцімся аб тым, каб падчас свят Божага Нараджэння наша сям'я спажыла найважнейшую страву – тую сімвалічную, што набліжаецца ў постаці аплаткі, ламанне якой азначае прабачэнне адзін аднаму і прыняцце ўсіх такімі, якімі стварыў Бог.

Калі мы нарадзіліся, сям'я акружыла нас любоўю і з радасцю прыняла. А сям'ёй народжанага Езуса з'яўляемся ўсе мы. І калі Ён прыйдзе ў гэты раз, давайце наведаем Збаўцу і пакажам, што Ён вельмі значны, доўгачаканы і такі любімы. А Хрыстос ужо спяшаецца нам насустрач, каб парадаваць сваім прыходам, абвясціць перамогу жыцця над смерцю.

*Марыя Валюк*

# На абед да сясцёр назарэтанак

● працяг са с. 1



### ЛЮБЫЯ ЦЯРПЕННІ – У ПЭЎНАЙ ІНТЭНЦЫІ

– Сёння гатуем на абед дранікі! – з усмешкай сустракае мяне на кухні с. Тэрэза Кучынская CSFN. Вымае з шафкі электратарку. Вядро начышчанай бульбы ўжо напагатове.

– Гэта мяне хто-небудзь з сясцёр выручае: раней начысціць бульбы, морквы, цыбулі, – дзеліцца манахіня. – Дарэчы, калі ў сясцёр ёсць вольны час, забягаюць на кухню, пытаюцца, чым могуць быць карысныя. Дапамагаюць пячы смачныя торты, пірагі, пячэнне. Прызнаюся, гэта нашмат палягчае мне працу... Напэўна, нават больш падымае на духу тое, што з табой побач іншы чалавек. Так нейк спакайней...

У размове высвятляецца, што с. Тэрэза служыць на кухні адна. У ліку яе абавязкаў – прыдумаць і скласці меню, прыгатаваць ежу, прыбрацца на кухні. Прызнаецца, што цяжка было напачатку. Працей стала, калі крыху набралася вопыту, дзякуючы падказкам сясцёр.

– Вельмі важна злучаць сваю штодзённасць з малітвай, давяраць усё Богу, – заўважае с. Тэрэза. – Нягледзячы на розныя цяжкасці, трываць у Пану. Менавіта Ён дае сілы, з'яўляецца крыніцай моцы і так патрэбнай мудрасці. Я заўсёды кіруюся ў жыцці такім выслоўем з Евангелля: "Заставайцеся ўва Мне, а Я ў вас. Як галінка не можа прынесці плоду сама з сябе, калі не застанецца ў вінаграднай лазе, так і вы, калі не будзеце ўва Мне. Я – вінаградная лаза, вы – галіны. Хто застаецца ўва Мне, а Я ў ім, той прыносіць багаты плён, бо без Мяне нічога не можаце зрабіць" (Ян 15, 4–5).

І тут раптам электратарка перастае рабіць: нешта заела. Сястра здзяйсняе пэўную маніпуляцыю – і механізм зноў запрацаваў. С. Тэрэза ўсміхаецца і тлумачыць, што любыя няўдачы можна "прынесці на Божы алтар у пэўнай інтэнцыі". У лістападзе, напрыклад, яна ахвяруецца за памерлых.

### З УВАГАЙ ДА КОЖНАГА ЧАЛАВЕКА

Сястра рухава замешвае цеста для дранікаў. На пліце ўжо награваюцца патэльні. Іх ажно 5, бо трэба паспець своечасова падаць гатовую страву на абед. А ў доме супольнасці пражывае 18 сясцёр назарэтанак.

Спачатку гатуем дранікі без цыбулі для некалькіх манахінь, якія маюць праблемы са страўнікава-кішэчным трактам.

– Некаторыя нашы сёстры па стане здароўя прытрымліваюцца дыеты. Для іх патрэбна асаблівае меню, – падкрэслівае с. Тэрэза.

У бяседзе манахіня распавядае, што прадумвае набор страў на некалькі дзён уперад. Робіць нейкія зарыхтоўкі напярэдадні.

– На тыдні нас абавязвае пост у сераду, пятніцу і суботу. Яго захоўваем у памяць аб Святой Сям'і: Езусе, Марыі і Юзафе, – тлумачыць с. Тэрэза.

– А што сёстры любяць больш за ўсё? – цікаўлюся.

Манахіня на момант задумалася.

– Боршч. Рыбу. Розныя салаты, напрыклад, сялёдку пад шубай. Бліны з рознымі начынкамі, паджараныя, – гаворыць сястра.

У прыадчыненай шафе заўважаю паліцу з кнігамі і нататнікамі. Схіляючы галаву, разумею, што там захоўваецца калекцыя рэцэптаў.

– Я пагляджу?

С. Тэрэза ківае.

На маё здзіўленне, там апынуліся кулінарныя зборнікі розных краін: Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы. Асобна збоку ляжала нават рарытэтнае па сённяшніх мерках выданне "Kucharka Litewska", выпушчанае ў Варшаве ў 1900 годзе.

– Рукі не даходзяць усё гэта перагледзець, – з жалем заўважае сястра. – Вельмі часта перадаём нейкія рэцэпты з вуснаў у вусны.

Манахіні дзеляцца адна з адной пэўнымі хітрасцямі, да якіх гаспадыні прыходзяць з часам, набіраючыся вопыту. Так, напрыклад, каб боршч захоўваў прыгожы колер булёну і меў прыемную кіслінку на смак, падчас прыгатавання варта нарэзаць і кінуць у суп свежы яблык.

### НАКАРМІЦЬ ХРЫСТА Ў БЛІЖНІМ

Разам з с. Тэрэзай спрытна пераварочваем падрумяненыя дранікі. Адна партыя, другая, трэцяя, дзясятая – і міска з цестам апусцела.







Справіліся! Да абеду застаецца паўгадзіны. Манахіня ставіць на пліту грэцца суп са шчаўя, які застаўся з учарашняга дня.

– Такія моманты важна прадугледзець, – падкрэслівае с. Тэрэза. – Калі б супу не было на сёння, дранікі не планавала б. Вельмі цяжка адначасова гатаваць некалькі страў на дзясятак людзей.

За пару хвілін да абеду ў вызначаны час у сталовай дома сясцёр назарэтанак заўважаецца рух. Манахіні збіраюцца на супольную малітву перад прыняццем ежы. Прачытаўшы ўрывак з Бібліі, сёстры прымаюцца за абед. Ён трывае каля паўгадзіны. Манахіні размаўляюць паміж сабой, абмяркоўваюць нейкія пытанні.

Пазней с. Тэрэза прызнаецца, што ёй вельмі прыемна назіраць за тым, як сёстры з апетытам спажываюць прыгатаваныя стравы. У такія моманты яна ўяўляе, што разам з манахінямі сядзіць сам Хрыстос:

– Выказваючы клопат пра кожную сястру, я клапачуся пра Езуса. Прыгатаваўшы стравы, імкнуся накарміць Збаўцу, які прысутны ў бліжнім.

Тое, што застаецца пасля абеду, ніколі не марнуецца. Часам у дзверы дома супольнасці пастукаецца ўбогі, які спазніўся на абед, што сёстры гатуюць для бедных асобна. І тады манахіні частуюць яго тым, што маюць. Галодны ніхто ад сясцёр не выходзіць.

### ЧАЛАВЕК НЕПЕРАМОЖНЫ, КАЛІ ДАВЯРАЕ СЯБЕ БОГУ

Паволі манахіні пачынаюць разыходзіцца з абеду. Маючы трохі часу, с. Тэрэза прапануе мне заглянуць у каморку. Там яна паказвае паліцы са шматлікімі нарыхтоўкамі.

– Вось варэнне, марынады. Салаты, агуркі і памідоры. Гэта ўсё мы самі! – дадае з усмешкай. – Летам збіраемся на кухні разам. Кожны робіць нешта па сваім рэцэпце. І ў выніку атрымліваем такі багаты ўраджай закатак на зіму.

Сярод іншага с. Тэрэза вылучае засушаныя грыбы:

– Самі сёстры збіралі ў лесе... Стараемся па магчымасці ўсё рабіць сваімі рукамі, сваімі ж намаганнямі. Вось нядаўна заквасілі капусту ў бочцы.

Манахіня запрашае выйсці на вуліцу. Там яна паказвае на невялікі кавалак зямлі.

– Вырошчваем тут, у сваім агародчыку, некатораю агародніну, зеляніну, – гаворыць яна. –Засушваем і замарожваем спецыі: базілік, укроп, жэжуху.

Сястра зазначае, што ў супольнасці адчуваюць асаблівую апеку св. Юзафа, да якога моляцца штодня. Ён часта прыходзіць з дапамогай праз простых людзей, якія ахвяруюць сёстрам бульбу, яблыкі, капусту, моркву, часнык...

– С. Тэрэза, як Вы думаеце, адкуль чалавеку варта чэрпаць сілы? – пытаюся.

– Кожны з нас мае невычарпальныя рэсурсы, калі робіць нешта на хвалу Божую, калі злучаны з Ім і ўпоўні давярае ўсяго сябе Усемагутнаму.

– Ці ёсць у Вас якое-небудзь жаданне?

– Паехаць у санктуарый Маці Божай у Лурд, каб там падзякаваць Ёй за 25 гадоў кансэкраванага жыцця, апеку і ўсе атрыманыя дары, а таксама выпрасіць неабходныя ласкі для далейшага служэння.



*Ангеліна Пакачайла*

---




**_У будслаўскім касцёле знойдзены рэліквіі св. Кацярыны Александрыйскай_**

***Капсула з рэліквіямі святой была загорнута ў мяшочак. У камуністычныя часы іх схавалі, каб зберагчы.***

*Апісанне рэліквій, якія калісьці размяшчаліся ў адным з бакавых алтароў будслаўскай святыні, было знойдзена ў архіўнай кнізе XVIII ст., складзенай падчас адной з інвентарызацыяй. На гэты факт звярнуў увагу вікарый мясцовай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі кс. Міхал Бубен і пачаў шукаць іх. "Такія рэліквіі складана атрымаць, таму ў некаторым родзе гэта ўнікальная рэч. Галоўныя рэліквіі святой знаходзяцца ў кляштары на Сінаі", – адзначыў святар.*




**_У Ватыкане выпусцілі манету з серыі "Кардынальныя цноты"_**

***Залатая манета вартасцю 200 еўра прысвечана 3-яй з іх – мужнасці, якая, згодна з каталіцкай традыцыяй, прадстаўлена ў іканаграфіі як моцны воін са шчытом і булавой у руцэ, за якім знаходзіцца выява льва. На зваротным баку манеты змешчаны герб папы Францішка.***

*Мужнасць – гэта цнота, якая забяспечвае цвёрдасць у цяжкасцях і сталасць у імкненні да лепшага, умацоўвае рашучасць у супрацьстаянні спакусам і пераадоленні перашкод у маральным жыцці. Яна дазваляе перамагчы страх, нават страх смерці, перад абліччам выпрабаванняў і пераследу.*




**_Рэстараны Рыма запрасілі бедных на абед_**

***Ініцыятыва была прымеркавана да Сусветнага дня ўбогіх, які ўстанавіў папа Францішак.***

*Яна стала адказам на заклік, што скіраваў уладальнікам рэстаранаў рэктар базілікі св. Яўстаха кс. П'етра Сігурані. "Я прайшоўся па рэстаранах і папытаўся, ці прымуць яны ўбогіх. Прыгатаваць бясплатны абед згадзіліся ў 10-ці рэстаранах, што знаходзяцца непадалёк ад Палаты прадстаўнікоў і Сената Італіі", – расказаў кс. Сігурані.*

*Папа Францішак, у сваю чаргу, у межах святкавання Сусветнага дня ўбогіх запрасіў 1500 чалавек на нядзельны абед у ватыканскую Залу аўдыенцый Паўла VI.*

*Кінга Красіцкая*




## Ці ўсе грахі могуць быць прабачаны?

*Святое Пісанне гаворыць пра тое, што існуе грэх, які ніколі не будзе прабачаны чалавеку ні ў зямным жыцці, ні ў вечнасці. Біблія называе яго грахом супраць Святога Духа (параўн. Мц 12, 31–32; Мк 3, 28–29; Лк 12, 10; 2 П 2, 20–22; Гбр 6, 4–6. 10, 26–29). Але ў чым канкрэтна ён заключаецца? Знайсці адказ на пытанне нам дапамагае Катэхізіс каталіцкага Касцёла (ККК, 1864).*

*Ёсць падрабязнае апісанне 6-ці праяўленняў граху супраць Святога Духа:*

***1. Грашыць, празмерна спадзеючыся на Божую міласэрнасць;***
***2. Упадаць у роспач або сумнявацца ў Божай ласцы;***
***3. Супраціўляцца спазнанай праўдзе веры;***
***4. Зайздросціць бліжняму, які мае Божую ласку;***
***5. Заставацца закамянелым у грахах;***
***6. Адкладаць пакаянне ажно да смерці.***

*Калі разважаць пра сутнасць гэтых праяўленняў граху, можна заўважыць, што ўсе яны зводзяцца да 2-юх крайнасцей. Умоўна іх можна назваць фальшывым духоўным аптымізмам і фальшывым духоўным песімізмам.*

*У першым выпадку чалавек не ўстрымліваецца ад граху, бо лічыць, што Бог абавязкова яму прабачыць. У другім выпадку – таксама не ўстрымліваецца ад граху, але ўжо з адваротнай матывацыяй: ён лічыць, што Бог яму ніколі не прабачыць.*

*Здаецца, у сучасным свеце асабліва папулярнае першае з узгаданых праяўленняў: жыць у граху, празмерна спадзеючыся на Божую міласэрнасць. Людзям прыемна ўсведамляць, што Усявышні іх любіць заўсёды, усюды, незалежна ад акалічнасцей. Аднак чалавек, які трывае ў граху і суцяшае сябе надзеяй на Божую міласэрнасць, становіцца ахвярай уласнага эгаізму. Ён лічыць, што можна грашыць, бязмежна выкарыстоўваць любоў Створцы – аж нават да таго, што перакінуць на Усемагутнага клопат аб выратаванні, а самому нічога пры тым не рабіць, разбураць, свавольнічаць.*

*Гэта тыповыя паводзіны капрызнага дзіцяці, якое не ўмее любіць і не жадае змяняцца. Адсутнасць спачування, ахвярнасці, няўменне валодаць сабою такі чалавек прыкрывае прыгожымі словамі пра сваю слабасць і бязмежнасць Божай міласэрнасці. Аднак яго ўчынкі сведчаць пра тое, што ён не шануе ні Бога, ні сябе. Варта ўсведамляць, што ўсё вырашаюць не красамоўныя прамовы пра Збаўцу, любоў і спадзяванні, а канкрэтныя дзеянні, скіраваныя на неадкладнае вызваленне душы з няволі.*

*Дык чаму ж не прабачаецца грэх супраць Святога Духа? Чаму не прабачаецца празмерная надзея грэшніка на Божую міласэрнасць? Незалежна ад праяўленняў і перакананняў грэх супраць Святога Духа з'яўляецца свядомым трываннем у граху і нежаданнем ад яго пазбавіцца, адкідваннем такой магчымасці. Чалавек не хоча прыняць прабачэнне. А ўмова прабачэння – гэта пакаянне, адмаўленне ад граху.*

*Кс. Андрэй Рылка*
***Паводле ave-maria.by***

# Калі б Іуда заплакаў, як Пётр!

***Калі б Іуда заплакаў, як Пётр,***
***Калі б жаль яго сэрца сціснуў?***
***І з адчаем душу распасцёр,***
***І ў роспачы к Небу ўзмаліўся?***

***Як цудоўна гучала б песня,***
***Што Анёлы пяюць у нябёсах!***
***І калі б гэту вестку прыняў,***
***Як нязмерна суцешыўся б Госпад!***

***Калі б ён на калені ўпаў?!***
***Каб, як Пётр, прыняў прабачэнне?!***
***Пан падняў бы яго і паслаў***
***Абвяшчаць усім народам збаўленне!***

***Можа, тыя, чыім душам сляпым***
***Даспадобы распуста, нянавісць,***
***Палюбілі б Пана і ў Ім***
***Адшукалі б спакой і радасць?!***

***Ты адзіны ведаеш, Пане,***
***Каго больш: ці Іуд, ці Пятроў!***
***Хай суцешыць Цябе пакаянне,***
***А жар пекла палохае грэшнікаў!***

***Хай Іуды заплачуць, як Пётр,***
***Бо не ведаюць самі, што чыняць!***
***Калі ж грэх цягне каменем у дол,***
***Толькі Бога любоў душу ўздыме!***


"Пацалунак Іуды", фрэска Джота дзі Бандонэ

### *Яго не прымушалі рабіць гэта…*

Якім быў бы лёс Іуды, калі б ён заплакаў, як Пётр, з раскаяннем прыйшоў да Езуса, атрымаў прабачэнне і, поўны ўдзячнасці ды любові, вырушыў абвяшчаць Евангелле? Магчыма, мы да сёння чыталі б у Дзеях Апосталаў пра здзейсненыя ім евангелізацыйныя справы? Можа, ён стаў бы добрым Апосталам сярод арабаў? Бясспрэчна, Пан Бог у сваёй міласэрнасці падрыхтаваў для яго цудоўны план жыцця і рэалізацыі здольнасцей. На жаль, Іуда яго перакрэсліў самагубствам. Не захацеў прыніжацца, прызнаючы сваю слабасць і грэх, просячы прабачэння…

Некаторыя бачаць у паводзінах Іуды нейкі гераізм, спрабуюць паказаць яго самагубства ў прывабных фарбах. Аднак такі падыход супярэчыць словам самога Езуса і Яго Апосталаў, якія не асуджалі Іуду, але ацэньвалі яго ўчынак як дрэнны: "Лепш было б гэтаму чалавеку не нарадзіцца" (Мц 26, 24). Св. Ян, у сваю чаргу, напісаў, што Іуда абвінаваціў Марыю "не таму, што клапаціўся пра ўбогіх, а таму, што быў злодзеем і, маючы скарбонку, забіраў тое, што туды кідалі" (Ян 12, 6). Спроба адшукаць у паводзінах Езуса і Апосталаў паставу, якая магла б згоршыць і адштурхнуць Іуду, няпраўдзівая, зневажаючая.

Сёння мы з'яўляемся сведкамі прапаганды самагубства сярод моладзі ў Інтэрнэце. Гэты страшны і ганебны грэх паказваецца як прыгожая рамантычная прыгода. Такому разуменню самагубства супярэчыць Божае слова і людское сэрца.

### *Ні разважанні, ні дыскусія…*

Закранаючы надзвычай драматычную тэму, хацелася б заўважыць, што гэты артыкул не з'яўляецца статыстычным, тэалагічным ці псіхалагічным разважаннем пра самагубства. Кожны, хто толькі захоча, можа знайсці прычыну для крытыкі ці падкінуць некалькі "мудрых" разважанняў на гэтую тэму і свой каменьчык да язычніцкіх гімнаў, што ўсхваляюць самагубства. Праз гэты тэкст я прагну толькі ўмацаваць хрысціянскія перакананні.

Жыццё з'яўляецца Божым дарам і шансам, каб заслужыць вечнасць у Небе. Таму мы павінны яго шанаваць з моманту зачацця ажно да натуральнай смерці, а таксама развіваць у сабе дары, ахвяраваныя Богам, чыніць дабро, якога ад нас чакаюць і Пан, і людзі. Асуджэнне іншай асобы не ўваходзіць у абавязкі чалавека. Аднак яго доўгам з'яўляецца ацэнка вартасці сваіх дзеянняў, каб вучыцца рабіць добрыя жыцёвыя выбары. Святое Пісанне і Катэхізіс каталіцкага Касцёла вучаць адрозніваць добрыя ўчынкі ад дрэнных і адназначна выбіраць першыя. "Калі самагубства здзяйсняецца з мэтай падаць прыклад, у прыватнасці, моладзі, яно становіцца страшнай спакусай. Свядомае садзейнічанне самагубству парушае маральны закон" (ККК, 2282).

### *Пане, Міласнік жыцця!*

Перакрэсліванне Божага плана адносна сваёй асобы з'яўляецца бунтам супраць Стварыцеля і вялікім грахом. Богу, Даўцы і Міласніку жыцця, не можа падабацца ні забойства, ні самагубства. Кніга Мудрасці гаворыць: "Бо любіш Ты ўсё, што існуе, і нічым, што стварыў, не грэбуеш; бо, калі б нешта ненавідзеў, гэтага б Ты не стварыў. Як бы магло трываць штонебудзь, калі б Ты не захацеў? Ці як захавалася б тое, што не было паклікана Табою? Але Ты ўсё шкадуеш, бо яно Тваё, о Пане, які любіш жыццё" (Мдр 11, 24–27).

Падобна як архітэктару, які пабудаваў прыгожы будынак, не падабаецца, калі бамбардзіруюць гэты будынак, як мастаку не падабаецца, калі знішчаюць яго карціну, як музыканту не даспадобы, калі ламаюць яго інструмент, так і нашаму Пану Езусу не падабаецца самагубства чалавека. Як мы прымаем непазбежнасць разбурэння і перамянення ў пыл старажытнага будынка ці цудоўнай скрыпкі, так з жалем прымаем старэнне і смерць чалавечага цела, якое з'яўляецца шэдэўрам Божай думкі. "Кожны адказвае за сваё жыццё перад Богам, які даў яго. Бог застаецца абсалютным Валадаром жыцця. Мы павінны з удзячнасцю прымаць яго і абараняць у гонар Бога і дзеля збаўлення нашых душ. Мы – толькі карыстальнікі, але не гаспадары жыцця, якое Бог даверыў нам. Мы не можам распараджацца ім" (ККК, 2280).

### *Усё на хвалу Божую*

Каштоўнасць людскіх учынкаў вырашае матывацыя, гэта значыць інтэнцыя. Можна ахвяраваць на Божую хвалу ўчынак міласэрнасці, цяжкасці штодзённасці, самаадданасць, цярпенне. Аднак самагубства немагчыма ахвяраваць на Божую хвалу. Таму гэты ўчынак нельга змясціць у катэгорыю добрых.

Частымі матывамі самагубстваў з'яўляюцца псіхічнае захворванне, сямейныя канфлікты, эканамічныя ўмовы, расчараванне ў каханні, страх перад пакараннем за ўчыненае злачынства, а для падлетка – нават праблемы ў школе.

Варта заўважыць, што спроба адабраць у сябе жыццё не з'яўляецца натуральным інстынктам істоты. У жывёльным свеце не сустракаюцца самагубствы. Такім чынам, гэта духоўная з'ява, бунт, які чалавек пазычыў у д'ябла, бацькі падману і нянавісці.

Святое Пісанне Старога і Новага Запавету і хрысціянская традыцыя адназначна асуджаюць самагубства як страшны і ганебны грэх: "Самагубства супярэчыць натуральнай схільнасці чалавека захоўваць і працягваць сваё жыццё. Яно сур'ёзна супярэчыць належнай любові да сябе. Яно абражае любоў да бліжняга, бо беспадстаўна разрывае сувязі салідарнасці з сямейнай, нацыянальнай і чалавечай супольнасцю, у адносінах да якіх ва ўсіх нас ёсць абавязацельствы. Самагубства супярэчыць любові да Бога жывога" (ККК, 2281).

### *Не пыха, а пакорнасць… Не ўзвышацца, а прыніжацца…*

***Псалом 131***

Пане, маё сэрца не ганарыцца, *
і не ўзнімаюцца мае вочы,
я не ганяўся за вялікім *
і тым, што недасяжна для мяне.
Але суцяшаў і супакойваў маю душу; †
як немаўля, аднятае ад грудзей сваёй маці,*
душа мая ўва мне, як аднятае немаўля.
Няхай Ізраэль спадзяецца на Пана *
адгэтуль і навекі.
Хвала Айцу і Сыну, *
і Духу Святому.
Як была спрадвеку, цяпер і заўсёды, *
і на векі вечныя. Амэн.

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

# Як прасіць Бога аб дапамозе?

***Задумаемся на хвілінку, з якой мэтай мы найчасцей звяртаемся да Бога ў сваіх малітвах? Калі на гэтае пытанне адказаць шчыра, дык атрымаецца, што часцей за ўсё мы аб нечым просім. Менавіта прашэнне для многіх з'яўляецца галоўнай функцыяй малітвы. На вялікі жаль, многія трактуюць Усявышняга як адказнага за ўсё, што адбываецца ў іх жыцці, і не думаюць пра наступствы сваіх рашэнняў і ўчынкаў.***

**У БОГА НА ЎСЕ НАШЫ ПРОСЬБЫ СВАЁ МЕРКАВАННЕ**

*Я прасіў Бога, каб ацаліў маё хворае дзіця. Ён адказаў: "Не. Яго душа не з'яўляецца хворай, а цела… яно часовае".*

*Я прасіў Бога, каб адарыў мяне большай цярплівасцю. Ён адказаў: "Не. Цярплівасць нараджаецца праз пакуты. Гэтую якасць нельга атрымаць, яе трэба зарабіць".*

*Я прасіў Бога, каб даў мне шчасце. Ён адказаў: "Не. Я даю табе бласлаўленне, а шчасце залежыць ад самога цябе".*

*Я прасіў Бога, каб развіў мой дух. Бог сказаў: "Не. Трэба развівацца самастойна. Але я буду кідаць табе пад ногі камяні, каб тваё развіццё было больш інтэнсіўным".*

*Я прасіў аб ласках, якія б дазволілі мне цешыцца жыццём. Бог сказаў: "Не. Я даю табе жыццё, каб ты мог атрымліваць задавальненне ад разнастайных дабротаў".*

*Я прасіў Бога, каб дапамог мне любіць усіх так, як Ён любіць мяне. Бог сказаў: "Ах, нарэшце ты зразумеў".*

Гэты тэкст з'явіўся на адным з хрысціянскіх форумаў. Ён дапамагае зразумець, што прасіць Бога нашмат складаней, чым можа здавацца на першы погляд. Нібы ўсё павінна быць простым… Нечага хочацца, дык просім аб гэтым: аб вырашэнні нейкіх жыццёвых пытанняў, аб здароўі, дабрабыце, даўгалеццi… Сапраўды, вельмі часта трактуем Бога як чараўніка, які ў адзін момант можа рэалізаваць нашы прыватныя "захцянкі". Але не заўсёды атрымліваем тое, чаго прагнем. Тады думаем, што Бог не чуе нашу малітву ці такім чынам карае за нейкія правіны.

Увесь час хочам атрымліваць. Можа, у гэтым і няма нічога дрэннага, бо, урэшце рэшт, усё жыццё заснавана на жаданнях. Праблема ў тым, што не просім належным чынам.

**УМЕННЕ ПРАСІЦЬ – ГЭТА МАСТАЦТВА**

Самым простым і найбольш распаўсюджаным спосабам просьбы аб дапамозе з'яўляецца малітва. Ведаем, што яна мае вялікую моц. Нават спантанная, прыдуманая самастойна. Праз малітву шчыра адкрываем Богу ўсе нашы думкі і намеры.

Пасля наступае 2-гі, больш складаны этап. Гэта канкрэтныя дзеянні, мэта якіх заключаецца ў рэалізацыі прагненняў. Бог дзейнічае праз інструменты, якімі з'яўляюцца нашы ўласныя рукі. Каб мець добры рэзультат, трэба шмат працаваць. Іншага шляху няма.

І, урэшце, 3-ці этап – гэта падзяка. Калі атрымаеш тое, аб чым прасіў, падзякуй, тады Тваё жыццё стане радасным, гарманічным і шчаслівым.

Бога можна прасіць і аб штодзённых патрэбах, і аб духоўных, але "найперш трэба шукаць Валадарства Божае ды праўду яго, і гэта ўсё будзе вам" (Мц 6, 33). Таксама трэба памятаць аб тым, што любая малітва-просьба павінна суправаджацца словамі "калі на тое будзе воля Твая". Тады гэта сапраўднае прашэнне, а не непаважлівая спроба прымусіць Бога што-небудзь зрабіць.

*Кінга Красіцкая*

## НАВІНЫ



**Распачаўся I Сінод Гродзенскай дыяцэзіі**

Ва ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці – галоўнай заступніцы дыяцэзіі – у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне быў адкрыты I Сінод Гродзенскай дыяцэзіі. Ён распачаўся канферэнцыяй, якую прамовіў генеральны сакратар сінода кс. канонік Антоній Грэмза. Святар адзначыў, што гэтую падзею "ў святле сучаснага вучэння Касцёла можна назваць свайго роду дыяцэзіяльнай Пяцідзясятніцай, а таксама часам чытання і распазнавання знакаў сучаснасці". Мэта дыяцэзіяльнага сінода – ажывіць рэлігійнае жыццё на Гродзеншчыне, умацаваць веру ў людзях, аднавіць вернасць спадчыне мінулага і сфарміраваць адважны позірк у будучыню.

Перад урачыстай св. Імшой адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Прысутныя ў святыні вернікі на чале з духавенствам скіравалі свае малітвы і просьбы ў інтэнцыі плённай працы сінода. У гэтай жа інтэнцыі маліліся парафіяне разам з пробашчам кс. Анджэем Буракам ля крыжа ў Даўнарах (дэканат Іўе), які быў усталяваны і асвечаны з нагоды гэтай гістарычнай падзеі.

Літургію на адкрыццё сінода з удзелам шматлікіх святароў, кансэкраваных асоб і свецкіх прадстаўнікоў многіх парафій дыяцэзіі ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. На св. Імшы таксама прысутнічалі дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і Першы сакратар Апостальскай нунцыятуры кс. прэлат Марынка Антолавіч.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч абвясціў устаноўленыя спецыяльным дэкрэтам галоўную і 16 тэматычных камісій разам са старшынямі, а таксама сакратарыят сінода. Першае пасяджэнне прызначаных у камісіі святароў адбудзецца ў Гродне ўжо 5 снежня.

### ПРЫЗНАЧЭННІ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прызначыў кс. Паўла Салабуду, пробашча парафіі Святога Духа ў Гродне, ганаровым канонікам катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра Каралевіча. Такім чынам, колькасць канонікаў Гродзенскага капітула павялічылася да 21.

### ПАРАФІЯЛЬНЫЯ АДПУСТЫ



Дзень імянін сваіх касцёлаў нядаўна адсвяткавалі вернікі парафій Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне, Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата Кунцэвіча ў Заневічах (дэканат Вялікая Бераставіца), Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, у Гродне, св. Елізаветы Вянгерскай у Падароску (дэканат Ваўкавыск), Хрыста, Валадара Сусвету, у Скрыбаўцах (дэканат Шчучын). Парафіяльныя адпусты таксама адбыліся ў капліцы Святога Духа ў Гродне і касцёле св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе (дэканат Масты), дзе Маці Божая Вастрабрамская ўшаноўваецца ў бакавым алтары святыні.

Бліжэйшыя адпусты ў Гродзенскай дыяцэзіі адбудуцца 30 лістапада ў парафіі св. апостала Андрэя ў Слоніме, 3 снежня ў парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, 4 снежня ў парафіі св. Барбары ў Сялявічах (дэканат Слонім), 6 снежня ў парафіях св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах (дэканат Іўе) і Міры (дэканат Навагрудак), 8 снежня ў парафіях Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне, Лідзе, Слоніме, Кашубінцах (дэканат Гродна-усход) і Квасоўцы (дэканат Гродна-захад).

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Нямала канцэртаў адбылося за апошні час у Гродзенскай дыяцэзіі. Семінарыйны гурт "AVE" зладзіў канцэрт праслаўлення ў Ражанцы (дэканат Шчучын). У касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне выступіў дыяцэзіяльны хор "Cantate Domino". Канцэрт-рэквіем класічнай музыкі адбыўся ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. У араторыі імя св. Яна Боско ў Смаргоні прайшла VII Цэцыліяда пад назвай "Усклікаюць нябёсы".

Выстаўкай, прысвечанай жыццю бласлаўлёнага мучаніка кс. Ежы Папялушкі, адкрыўся цыкл сустрэч "Прыпынак Гісторыя" ў консульстве Рэспублікі Польшча ў Гродне.

### ПІЛІГРЫМКІ



Наведванне капліцы Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Міласэрнасці, у Вострай Браме (Літва) ужо шмат гадоў з'яўляецца добрай традыцыяй сярод вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі. Двойчы да святыні, дзе знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай Вастрабрамскай, накіроўваліся пілігрымкі з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі. Спярша туды вырушыла група на чале з пробашчам кс. Янам Гавецкім у складзе 37-мі чалавек, а потым – колькасцю 54 чалавекі.

У Вострую Браму выязджалі таксама пілігрымы ў складзе 70-ці чалавек на чале з кс. Юрыем Бяганскім з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Лідзе.

Арганізавалі пілігрымку ў Вільнюс і навучэнцы гродзенскай духоўнай семінарыі.



### АДНЫМ РАДКОМ

• У галоўным офісе дабрачыннага таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі распачала працу творчая майстэрня па вырабе святочных паштовак, дэкарацый, фігурак з гіпсу для продажу на калядным кірмашы. • Парафія св. Яна Паўла II у мікрараёне Пагараны ў Гродне атрымала дзяржаўную рэгістрацыю. • 10-годдзе існавання Легіёна Марыі адсвяткавалі ў касцёле Божай Міласэрнасці ў Лідзе. • Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі наведаў хворых у бальніцы сястрынскага догляду ў Воўпе (дэканат Масты). • Урачысты абрад бласлаўлення 5-ці новых лектараў адбыўся ў касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне. • Фармацыйная сустрэча для 20-ці святароў ад 1 да 8 гадоў святарства, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, адбылася ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. • Адзіны ў Беларусі барочны арган XVIII стагоддзя загучаў пасля 4-гадовай рэстаўрацыі ў касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Старых Васілішках (дэканат Шчучын).

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

*Ангеліна Пакачайла*

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Яны пройдуць 1–3 снежня ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі).**

Духоўныя практыкаванні арганізоўвае душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

*Запісацца і атрымаць больш падрабязную інфармацыю можна па тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

### АДВЭНТАВЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ СУЖЭНСТВАЎ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Іх арганізуе рух "Сужэнскія сустрэчы". Духоўныя практыкаванні адбудуцца 8–10 снежня.**

Мэтай рэкалекцый з'яўляецца аднаўленне і паглыбленне сужэнскай любові і еднасці. Мужу і жонцы прапануецца форма дыялогу, якая, з аднаго боку, дазваляе глыбей пазнаць адно аднаго, а з другога (у выпадку непаразуменняў) – дапамагае знайсці кампраміс у канфліктных сітуацыях. Праграма грунтуецца на сучасных ведах з вобласці псіхалогіі, камунікацыі і тэалогіі сям'і.

У рэкалекцыях могуць прыняць удзел людзі рознага ўзросту, з розным досведам сямейнага жыцця і ўзроўнем ведаў, рознай ступенню набожнасці і веравызнаннем, у тым ліку пары, якія толькі распісаліся ў ЗАГСе, і тыя, хто заключыў 2-гі сужэнскі саюз. Абавязковая ўмова для ўдзельнікаў духоўных практыкаванняў – прысутнасць на ўсіх пунктах праграмы 2-іх сужэнцаў (без дзяцей).

*Кантактныя нумары для запісу:*
*(8 029) 644-26-05, Святлана Квяткоўская;*
*(8 029) 529-93-50, Аляксандр Квяткоўскі.*
*E-mail: suvstrechi@mail.ru.*

### ДЫЯКАНСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРЫ

**8 снежня, ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзеліць у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне дыяканскія пасвячэнні 3-ом навучэнцам Вышэйшай духоўнай семінарыі.**

**Андрэй Каўшук**
нарадзіўся 16 лютага 1986 года.
Паходзіць з парафіі Найсвяцейшай Тройцы і св. Францішка Асізскага ў Свіслачы.

**Эрнэст Мікалайчык**
нарадзіўся 1 лютага 1994 года.
Паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

**Раман Вайцяховіч**
нарадзіўся 30 студзеня 1994 года.
Паходзіць з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне.

*Св. Імша, на якой будуць удзелены дыяканскія пасвячэнні, пачнецца ў 12.00. Заахвочваем вернікаў падтрымаць кандыдатаў праз супольную малітву!*

### СЕМІНАР ДЛЯ АБАРОНЦАЎ ЖЫЦЦЯ І СЯМ'І АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Ён пройдзе 9–10 снежня ў кляштары сясцёр назарэтанак (вул. Маладзёжная, 4а) у форме майстар-класа.**

Семінар правядуць Іван Пузанаў (псіхолаг, педагог, тэолаг), Наталля Пузанава (тэолаг, педагог, настаўнік метаду распазнавання плоднасці, інструктар школы натуральнага нараджэння), Вольга Чаркасава (тэолаг, педагог, псіхолаг, акушэрка, настаўнік метаду распазнавання плоднасці, інструктар школы натуральнага нараджэння).

**Мэты семінара:**

• прэзентацыя тэматычнай інфармацыі для ўсіх, хто зацікаўлены пытаннямі абароны жыцця і сям'і;
• падрыхтоўка выступоўцаў для правядзення лекцый у абарону жыцця і сям'і;
• павышэнне кваліфікацыі лектараў, якія ўжо працуюць у сферы абароны жыцця.

*Арганізатар – дабрачынны фонд "Адкрытыя сэрцы". Атрымаць больш падрабязную інфармацыю можна па тэлефоне: (8 029) 781-51-96, с. Аляксандра.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

29 лістапада 1995 г. – кс. Тадэвуш Лась SCJ, *душп. Лядск;*
6 снежня 2001 г. – кс. прэлат Алаізій Тамковіч, *проб. Астравец;*
9 снежня 1942 г. – кс. Ян Селевіч, *проб. Варняны;*
9 снежня 1958 г. – кс. Ян Славінскі, *проб. Поразава.*

## Каляндар падзей

***26 лістапада***
*Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету. Дзень малітвы ў інтэнцыі выхавацеляў, выкладчыкаў і клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.*

***30 лістапада***
*Свята св. апостала Андрэя.*

***3 снежня***
*I Нядзеля Адвэнту. Заахвочваем да набожнага і цвярозага перажывання гэтага перыяду.*

***5 снежня***
*Гадавіна асвячэння катэдральнай базілікі ў Гродне.*

***8 снежня***
*Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***10 снежня***
*Дыяцэзіяльны дзень малітвы за ўсіх дабрадзеяў Касцёла.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 5 снежня.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***

*За Святога Айца Францішка і папу на пенсіі Бенедыкта XVI.*

*Аб беатыфікацыі і кананізацыі духоўных і кансэкраваных асоб, а таксама свецкіх вернікаў з нашай зямлі.*

*Аб дары плённай працы для дыяцэзіяльнага сінода.*

